НАВІНЫ
6 студзеня 1999 г., № 1 (532)

# Абеды па чацвяргах

Не трэба быць занадта глыбокім знаўцам далёкай і найноўшай айчыннай гісторыі, каб растлумачыць сённяшнюю цікавасць да Станіслава Аўгуста Панятоўскага — апошняга манарха краіны нашых продкаў. Ён узышоў на трон вялікага князя літоўскага і караля польскага дзякуючы былой каханцы, расійскай імператрыцы Кацярыне II, якая ўрэшце і знішчыла дзяржаву колішняга фаварыта, а яго самога загадала зняволіць.

Але сёння я прапаную не засяроджвацца на палітычных калізіях таго часу, а пагаварыць пра рэчы, больш сугучныя святочным калядным застольцам. А менавіта — пра Панятоўскага як вядомага гурмана, сноба і апекуна мастацтваў. Як сведчыць Кліо, згаданыя якасці ўласцівыя шмат якім кіраўнікам дзяржаваў розных часоў і народаў, а гэта дае прастору для асацыяцыяў і аналогіяў.

Завітаўшы на пачатку валадарання Станіслава Аўгуста ў ягоны палац або летнюю рэзідэнцыю, мы маглі б стаць сведкамі ягоных славутых «абедаў па чацвяргах», куды манарх запрашаў інтэлектуальную эліту і найперш — літаратараў і вучоных Рэчы Паспалітай. Да частых і асабліва шанаваных гасцей належалі, апрача палякаў, і нашы суайчыннікі камедыёграф і публіцыст Францішак Багамолец і вядомы гісторык Адам Нарушэвіч. Сам Панятоўскі з паходжання, дарэчы, таксама быў беларусам і добра валодаў беларускай мовай.

Запрошаныя сядалі разам з гаспадаром за круглы стол, што падкрэслівала роўнасць прысутных. Вялікі князь і кароль аддаваў перавагу французскай кухні ў яе спалучэнні з лепшымі рэцэптамі старабеларускай і старапольскай.

Сярод падаваных страваў былі буракі з вушкамі, разнастайныя кілбасы, вяндліна і пікантныя марынады. У меню ўваходзілі смажанае мяса, рыба і гародніна. Ганаровае месца займала ўлюбёная гаспадарова смажанка з бараніны, якую слуга выносіў на вялізным срэбным блюдзе з воклічам «Баран!» Стваральнікам усёй гэтай смакаты быў Павел Трэмо, якога ў Варшаве лічылі «найлепшым кухмістарам Еўропы». Фірмовай стравою першага кухара краіны служылі нашпігаваныя фаршам рабчыкі. Аб тым, што падавалася на дэсерт, гісторыя маўчыць, але вядома, што кожны абед завяршаўся аднолькавай сцэнаю: паж незалежна ад пары года прыносіў на парцалянавым сподачку тры свежыя слівы.

За сталом ішлі гаворкі пра тое, што краіна спаўзае ў стан хаосу і анархіі, што дзяржаву знясільвае зацятая барацьба магнацкіх родаў, якія нярэдка не толькі былі цалкам пазбаўлены патрыятычных пачуццяў, але і служылі інтарэсам ворагаў Рэчы Паспалітай. Гучалі прапановы рэформаў. Абмяркоўвалася дзейнасць Адукацыйнай камісіі, па сутнасці, першага міністэрства адукацыі ў Еўропе...

Характарызуючы заслугі Станіслава Аўгуста на ніве культуры, знакаміты гісторык Іаахім Лялевель пазней напіша: *«Коштам вялізных сродкаў ён збіраў бібліятэку, антыкварныя рэчы, гравюры, абкружаў сябе людзьмі навукі... Кожны чацвер за сталом у яго збіраліся вучоныя...»*

У заслугу Панятоўскаму можна залічыць і тое, што — у адрозненне ад гасцей — ён наталяў смагу не вытанчанымі гішпанскімі вінамі, а свежай крынічнай вадой. Прычым гэта было не толькі традыцыяй «абедаў па чацвяргах». Уступіўшы на трон, Станіслаў Аўгуст абвясціў вайну надзвычай пашыранаму ў Рэчы Паспалітай пры ягоных папярэдніках п'янству.

Нельга сказаць, што змаганне з Бахусам атрымала ўсенародную падтрымку. Тагачасны паэт Ігнацы Красіцкі вуснамі аднаго са сваіх герояў звяртаўся да вялікага князя з такімі словамі:

*Ты развучыў ліцвінаў*
*весяліцца...*
*А каб табе ні разу не напіцца!*

З другога боку, знаўца і відавочца той эпохі Лукаш Галембёўскі з ухвалаю пісаў: *«За цвярозым Станіславам Аўгустам у выніку лепшага выхавання, высакароднейшых прыкладаў і ўзнёслых пачуццяў п'янства спынілася».*

На вялікі жаль, гэта была адзіная выйграная нашым апошнім манархам кампанія.

Кацярына II усё часцей умешвалася ў справы Рэчы Паспалітай, дзе амаль бесперапынна стаялі расійскія войскі. 25 лістапада 1795 года Станіслаў Аўгуст падпіша адрачэнне і ператворыцца ў вязня. Пазалочаны каралеўскі трон прывязуць у Пецярбург, і імператрыца распарадзіцца прыстасаваць яго для сваіх штодзённых фізіялагічных патрэбаў. На ім, між іншым, праз год яе і разаб'е параліч.

***P.S.** Што падаецца і каго з інтэлектуальнай эліты запрашаюць на абеды да кіраўніка нашай незалежнай дзяржавы, мы, гойсаючы па крамах у пошуку «нармальных чалавечых яек», маем магчымасць адно здагадвацца. Наводзіць на пэўныя аналогіі той факт, што адна вядомая асоба таксама не любіць моцных напояў, аддаючы перавагу клубнічнаму морсу. Праўда, лічыць гэтую акалічнасць праявай дзяржаўнай кампаніі барацьбы за цвярозы лад жыцця — у краіне з найтаннейшаю ў свеце гарэлкай і дэфіцытам закускі – можа толькі чалавек, багата адораны фантазіяй.*

**Уладзімір АРЛОЎ**



*Апошні вялікі князь літоўскі і кароль польскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі быў зацятым змагаром з Бахусам.*

## СУБОТА 16 СТУДЗЕНЯ

**БТ**
**06.30** Доброе утро, Беларусь! **07.00** Новости. **07.10** Доброе утро, Беларусь! **08.00** Континент. **08.15** Столица. **08.40** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.10** «Я рисую». **09.30** Здоровье. **09.55** Вершина мира. **10.25** «Все нормально, мама!» **11.00** Новости. **11.15** «Проклятый уютный дом». 4-я с. **12.10** Мультфильм. **12.30** Четвертое измерение. **13.00** Новости. **13.15** Родное слово. **13.50** Родовод. **14.20** Олимп. **15.00** Новости. **15.10** Уроки Н.Новожиловой. **15.35** Познай себя. **15.55** Бон тон. **16.25** «Это моя работа». **17.00** Новости (с сурдопереводом). **17.10** «Воспоминания об утраченном рае». Д/ф. **17.30** «Сегодня с вами...» Художественный руководитель ансамбля «Хорошки» Валентина Гаевая. **18.00** «Проклятый уютный дом». 4-я с. **19.00** Новости. **19.15** «Из достоверных источников». **19.40** Добрый вечер, Беларусь! **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.40** «Месяц у озера». Х/ф. **23.10** Бездельник. **23.40** Белорусский хит-парад. **23.55** Видимо-невидимо.

**ОРТ**
**07.00** «Найти и обезвредить». Х/ф. **08.30** «Бобик в гостях у Барбоса». **08.45** Слово пастыря. **09.00, 14.00, 17.00** Новости. **09.15** «100 %». **09.45** «Утренняя почта». **10.15** «Каламбур». **10.50** Смак. **11.10** Возвращение Третьяковки. **11.35** Счастливый случай. **12.30** «Анна и командор». Х/ф. **13.55** Программа передач. **14.15** «Собрание заблуждений». **14.45** В мире животных. **15.25** Умники и умницы. **15.50** «Ну, погоди!» **16.15** Как это было. **16.55** Погода. **17.15** «Женские истории». **17.45** Юбилейный вечер Юрия Николаева. **20.00** Время. **20.50** «Секретные материалы». **22.25** Новости спорта. **22.45** «Жар тела». Х/ф. **00.40** Программа передач.

**РОССИЯ**
**07.00** «Сокровища затонувших кораблей». **07.15** «Проделки сорванца». Х/ф. **08.30** Прогноз погоды. **08.35** Мультфильмы. **09.00** Доброе утро, страна. **09.45** «Сто к одному». Телеигра. **10.30** Любовь с первого взгляда. **11.00** Подиум д'арт. **11.30** Домашние хлопоты. **12.00** «Неделя в Санта-Барбаре». **13.00, 19.00** Вести. **13.30** Вечер памяти А.Галича в Политехническом «Я выбираю свободу». **14.55** **50 x 50**: Буду звездой! **16.00** Сиреневый туман. **17.00** Моя семья. **18.00** «Площадь звезд-99». **19.30** Голубой огонек. **22.30** «Она прекрасна». Х/ф. **00.05** Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**
**09.00** Программа передач. **09.05** Погода. **09.10** «Читая Библию». **09.20** Книжный кладезь. **09.35** «Великий утешитель». Х/ф. **11.10** «Наобум». **11.40** Сюита из оперы «Порги и Бесс». **12.00** Микрофон включен. **12.20, 13.45** «Ромео и Джульетта». Спектакль. **13.29** Азбука. **15.10** «Кто там...» **15.35** «Очевидное — невероятное. Век XXI». **16.05** Художник Антон Чирков. **16.30** «Открытие таланта». **17.00** Новости. **17.05** «2003». **17.10** «Судьба, судьбою, о судьбе». **18.05** 15-й подъезд. **18.35** Программа передач. **18.40** Гала-концерт, посвященный **90**-летию Р.Я.Плятта. **20.59** Азбука. **21.00** Новости культуры. **21.20** «Мелодии Верийского квартала». Х/ф. **23.00** «Негаснущие звезды».

**НТВ**
**07.00** Мультсериал «Битлджус». **07.30** «Из жизни начальника уголовного розыска». Х/ф. **09.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня. **09.15** «Чистосердечное признание». **09.45** Впрок. **10.00** «Пойми меня». **10.30** «Старый телевизор». **11.15** Профессия — репортер. **11.30** Своя игра. **12.00** Хоккей. ЦСКА (Москва) — «Лада» (Тольятти). **14.30** «Русский век». **15.20** «Она написала убийство». Х/ф. **16.15** Суд идет. **17.00** Дог-шоу. **17.30** Герой дня без галстука. **18.40** «Максим Перепелица». Х/ф. **20.30** «Итого». **21.40** «Кинг-Конг жив». Х/ф. **23.25** «Про это».

**НТВ+**
НАШЕ КИНО
**09.00** «Алые паруса». **10.30** «Офицеры». **12.00** «По главной улице с оркестром». **13.30** Кино. Между прошлым и будущим. **13.45** «Транзит». **2** серии. **15.50** «Непобедимый». **17.00** «Женщина, которая поет». **18.15** «Любовь земная». **19.45** «Суета сует». **21.10** «Холодное лето пятьдесят третьего...» **22.45** Завтра в программе.

МИР КИНО
**09.30** Сегодня в программе. **09.35, 17.05** «Центрфорвард». Д-**13**. **10.30** Календарь «Мира кино». Джон Карпентер. **10.45** «Упряжь для павлинов». Д-**13**. **12.30** «Ангельская пыль». Д-**17**. **14.00** «По прозвищу «Буря». Д-**13**. **15.35** «Золото». **Д-13**. **17.55** Календарь «Мира кино». Джон Карпентер. **18.10** «Исповедь невидимки». **Д-13**. **19.45** Сделано в Голливуде. **1950** г. **20.05** «Смешная девчонка». Д-**13**. **22.30** «Скромница». Д-**17**. **00.00** «Это моя очередь». **Д-17**.

СПОРТ
**08.00** Новости. **08.10** Аэробика. **08.35** Урок настольного тенниса. **08.50** «Щит и мяч». **09.25** Power week - неделя НХЛ. **10.35** Новости. **10.50** Биатлон. Кубок мира. **13.00** Аэробика. **13.30** Урок настольного тенниса. **13.45** Новости. **13.55** Биатлон. Кубок мира. **16.00** «Спортивные танцы». **17.00** Новости. **17.10** Программа передач. **17.15** Американский футбол. **17.45** Ретроспектива финалов Кубка Стенли. **20.00** Большой ринг. **21.15** Спорткоктейль. **21.55** Футбол. Чемпионат Испании. **23.50** Шахматы.

**8-Й КАНАЛ**
**15.00** Джойс Майер «Жизнь в слове» **15.50** «Моби Дик» Х/ф. **17.00** Мультфильм «Горбун из Нотр-Дама». **1** с. **18.30** «Крещение». фильм **1**-й. **19.45** «Княжна Дейзи». Х/ф. **1** с. **21.15** Вечарніца. **21.30** Музыка на телеканале. **21.45** Х/ф «Человек тьмы».

## НЯДЗЕЛЯ 17 СТУДЗЕНЯ

**БТ**
**07.00** Доброе утро, Беларусь! **08.00** «Встречи с Библией». **08.45** Потребительская корзина. **09.00** Новости. **09.10** «От сердца к сердцу». **10.10** Мультфильм. **10.20** Туробъектив. **10.45** «Все нормально, мама!» **11.20** Арсенал. **11.45** Марсово поле. **12.00** Телевизионный Дом кино. **12.25** Международные спортивные новости. **12.45** Сделано в Беларуси. **13.00** АРТ-клуб. **13.35** «Легенда о Вильгельме Телле». **3**-я с. **14.30** Сельчане. **15.00** Новости. **15.10** Древо жизни. **15.35** «Рождественская звезда-**98**». **16.25** «День над лесом». Д/ф. **16.40** Зорная ростань. **17.10** Телебарометр. **17.30** «Большие каникулы». Х/ф. **18.55** Теленавигатор. **19.15** Стадион. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** «Карамболь». **21.25** «Девочка Никто». Х/ф. **23.10** Премьера песни. **23.20** Авто-парк. **23.30** Бархатный сезон.

**ОРТ**
**07.00** «Максимка». Х/ф. **08.30** «Русалочка». **09.00, 14.00** Новости. **09.15** «Непутевые заметки». **09.30** Пока все дома. **10.05** Утренняя звезда. **10.55** Армейский магазин. **11.25** Играй, гармонь любимая! **11.50** Крестьянские ведомости. **12.20** «Все путешествия команды Кусто». **13.25** Смехопанорама. **13.55** Программа передач. **14.15** Клуб путешественников. **15.05** «Симфонические тайны». **15.30** «Тимон и Пумба», «Алладин». **16.25** «Колесо истории». **17.10** Погода. **17.15** «Серебряный шар». **18.20** «Ералаш». **18.30** «Неподдающиеся». Х/ф. **20.00** Время. **20.30** Погода. **20.35** «Ас из асов». Х/ф. **22.25** Новости культуры. **22.45** «Стрелец — **98**». **23.25** Чудо Ванессы Мэй. **23.55** Программа передач.

**РОССИЯ**
**07.00** Мультфильмы. **07.30** Служу Отечеству! **08.00** «По следам бременских музыкантов». **08.30** Почта РТР. **08.55** Прогноз погоды. **09.00** Доброе утро, страна. **09.30** Сам себе режиссер. **10.00** «Аншлаг». **11.00** Русское лото. **11.40** «Робот Френки Штейна». Х/ф. **12.00** «Неделя в Санта-Барбаре». **13.00** Вести. **13.30** Федерация. **14.10** Парламентский час. **15.15** Папа, мама, я — спортивная семья. **16.00** Диалоги о животных. **17.00** Артисты против СПИДа. **18.10** Совершенно секретно. **19.00** Зеркало. **20.00** «Песни нашего века». **21.25** «Колизей». **22.20** Дежурная часть. **22.45** «И стал свет». Х/ф. **00.25** Прогноз погоды.

**КУЛЬТУРА**
**09.00** Программа передач. **09.05** Погода. **09.10** «Читая Библию». **09.20** Консилиум. **09.45** «Белый пудель». Х/ф. **10.55** «Академический час». **11.35** В тридевятом царстве. **12.00** «Венера Илльская». **12.40** П.И.Чайковский. «Времена года». **13.29** Азбука. **13.30, 21.00** Новости культуры. **13.45** «Детский мир». **14.10** Тихий вечер. **14.40** «А прошлое кажется сном...» **15.30** Международное обозрение. **16.10** Телевидение — любовь моя. **17.00** Новости. **17.05** «**2003**». **17.10** «Судьба, судьбою, о судьбе». **18.05** Программа передач. **18.10** «Буря». Спектакль. **19.25** Чудо-сказка. **19.40** Мультфильм. **20.00** Балет «Осязаемый огонь». **20.59** Азбука. **21.20** «Под рояль». Х/ф. **22.50** Блеф-клуб.

**НТВ**
**07.00** «Чапаев». Х/ф. **08.35** «Легенда о затерянном городе». **09.00, 11.00, 15.00** Сегодня. **09.15** «Максим Перепелица». Х/ф. **11.15** Большие деньги. **11.40** «Зеркало для героя». Х/ф. **14.00** Жизнь замечательных зверей. **14.30** «Русский век». **15.20** «Ключи от форта Байяр». **17.00** Итоги. Предисловие. **17.40** «Скала Малхолланд». Х/ф. **19.45** Куклы. **20.00** Итоги. **21.00** «Ее звали Никита». **22.00** Итоги. Ночной разговор. **22.30** Бокс. Майк Тайсон против Франса Бота.

**НТВ+**
НАШЕ КИНО
**09.00** «В моей смерти прошу винить Клаву К». **10.15** «Женщина, которая поет». **11.30** «Любовь земная». **13.00** «Суета сует». **14.20** «Случайные пассажиры». **15.35** «Голова горгоны». **17.00** «В Москве проездом...» **18.20** «Судьба». **2** серии. **21.00** «Крутые: смертельное шоу». **22.40** Завтра в программе.

МИР КИНО
**09.30** Сегодня в программе. **09.35, 17.45** «Центрфорвард». Д-**13**. **10.30** «Золото». Д-**13**. **12.00** Сделано в Голливуде. **1950** г. **12.20** «Скромница». Д-**17**. **13.55** «Смешная девчонка». Д-**13**. **16.15** «Это моя очередь». Д-**17**. **18.40** «Смешная леди». Д-**13**. **20.55** «Солдаты группы Z». Д-**17**. **22.30** «Август». Д-**13**. **00.00** «Руди». Д-**13**.

СПОРТ
**08.00** Спорткоктейль. **08.30** Аэробика. **08.55** Хоккей. Чемпионат НХЛ. «Филадельфия Флайерс» - «Торонто Мэйпл Ливз». **11.10** Новости. **11.20** Шахматы. Супертурнир «Вейк-ан-Зее». **11.50** Биатлон. Кубок мира. **13.00** Хоккей. Чемпионат России. «Торпедо» (Ярославль) - «Динамо». **15.00** Биатлон. Кубок мира. **16.15** Новости. **16.25** Футбол. Чемпионат Италии. **18.10** Профессиональный бокс. Майк Тайсон (США) - Франк Бота (ЮАР). **21.10** Еще неделя позади... **21.40** Программа передач. **21.45** Шахматы. Супертурнир «Вейк-ан-Зее». **22.15** Американский футбол. В перерыве: **23.00** Новости.

**8-Й КАНАЛ**
**15.00** Программа Рика Ренера. **15.30** Х/ф «Моби Дик», **2** с. **17.00** Мультфильм «Горбун из Нотр-Дама», **2** с. **18.30** «Крещение». фильм **2**-й. **19.45** «Княжна Дейзи». Х/ф **2** с. **21.15** Вечарніца. **21.30** Новости «К-видео». **22.00** Х/ф «Смерть среди айсбергов».

# Даты і лёсы

## *5 студзеня*

**1919.** Слесар-водаправодчык Антон Дрэкслер заснаваў у Мюнхене Германскую нацыянал-сацыялістычную рабочую партыю. Неўзабаве месца лідэра ў ёй заняў Гітлер.

**1964.** У Ерусаліме ўпершыню за 500 гадоў сустрэліся духоўныя лідэры каталіцкай і праваслаўнай цэркваў — папа Павел VI і Канстанцінопальскі патрыярх.

## *6 студзеня*

**1822.** Нарадзіўся знакаміты нямецкі археолаг-дылетант Генрых Шліман, які адшукаў легендарную Трою, у існаванне якой сур'ёзныя навукоўцы ўжо не верылі. На жаль, пад рыдлёўкамі паспешлівых землякопаў загінулі помнікі многіх стагоддзяў гісторыі горада, у тым ліку і самога «гамераўскага» перыяду.

**1838.** Амерыканскі мастак Сэмюэль Морзе наладзіў першую дэманстрацыю вынайдзенага ім тэлеграфа.

## *7 студзеня*

**1610.** Галілей адкрыў чатыры спадарожнікі Юпітэра (кожны памерам амаль з Зямлю) і назваў іх Іо, Еўропа, Ганімед і Каліста.

**1789.** У ЗША быў абраны першы прэзідэнт — Джордж Вашынгтон.

**1867.** У Германіі нарадзіўся заснавальнік галівудскай студыі *Universal Pictures* і вынаходнік культу кіназорак як прынады для гледача Карл Лемле. У гэты ж дзень у **1873 г.** нарадзіўся таксама галівудскі магнат венгерскага паходжання Адольф Цукар, заснавальнік студыі *Paramount*.

**1899.** Нарадзіўся вядомы французскі кампазітар-авангардыст Франсуа Пуленк.

**1969.** БССР падпісала Канвенцыю пра недастасаванне тэрмінаў даўнасці да злачынстваў супраць чалавецтва і ваенных злачынстваў.

## *8 студзеня*

**1889.** Герман Холерыт запатэнтаваў у Нью-Йорку электрычную лічыльную машыну. Фірма, якую ён заснаваў для продажу свайго вынаходства, з цягам часу ператварылася ў гігант *IBM*.

**1926.** Каралём Хіджаза стаў Ібн Сауд. У гонар сябе ён перайменаваў краіну ў Саудаўскую Аравію.

**1935.** Нарадзіўся «кароль» рок-н-рола Элвіс Прэслі. Агульны наклад ягоных запісаў набліжаецца ўжо да мільярда.

## *9 студзеня*

**1920.** Эсэры стварылі ў Мінску Беларускі паўстанцкі камітэт і «сялянскія дружыны» ў ваколіцах горада для змагання з польскімі акупантамі.

**1988.** Англічанін Эдгар Дэйкін запатэнтаваў пластыкавыя надмагіллі, у дзесяць разоў таннейшыя за звычайныя мармуровыя.

## *10 студзеня*

**1863.** У Лондане адчынілася першае ў свеце метро.

**1888.** Сапраўдны бацька кінематографа француз Луі ле Прэнс запатэнтаваў у ЗША першую кінакамеру.

## *11 студзеня*

**1314.** Дружына гродзенскага кашталяна Давыда разбіла войска крыжакоў пад Наваградкам.

**1919.** Ленін выдаў дэкрэт аб уводзенні харчразвёрсткі — абавязковай здачы сялянамі прадуктаў дзяржаве па цвёрдых (нізкіх) коштах.

**1974.** Сюзана Разенковіч з Кейптаўна ўпершыню нарадзіла шасцёра блізнятаў. У гэты ж дзень у **1980 г.** шасцёра дзяцей нарадзіла Разана Джаніні з Фларэнцыі. Усе дзеці выжылі — рэкорд для шматдзетных родаў.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1278 Нумар падпісаны ў друк 05/01/99 (15:00) Наклад — 18.710